

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№1 (165) СТУДЗЕНЬ 2014 ГОД


ПАЛІТЫЧНАЯ КАМПАНІЯ

# ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ Ў МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ РАЗГОРТВАЕЦЦА

**Утворана Шумілінская раённая выбарчая камісія па выбарах дэпутатаў Шумілінскага райсавета. Сельвыканкамамі створана 8 сельскіх выбарчых камісій.**

16 снежня указам кіраўніка краіны на 23 сакавіка 2014 года прызначаны выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў 27 склікання. Выбарчая кампанія распачалася фармаваннем тэрытарыяльных выбарчых камісій абласных, раённых, сельскіх Саветаў.

26 сьнежня завяршылася вылучэнне прадстаўнікоў у склад Шумілінскай раённай выбарчай камісіі.

На сумесным пасяджэнні прэзідыума Шумілінскага раённага Савета дэпутатаў і раённага выканаўчага камітэта была ўтворана Шумілінская раённая выбарчая камісія па выбарах дэпутатаў Шумілінскага раённага Савета дэпутатаў 27 склікання ў колькасці 13 чалавек.

Вылучана 13 прадстаўнікоў ад ад прадзяржаўных грамадскіх арганізацый і прафсаюзаў, ад КПБ, працоўнага калектыва і грамадзян шляхам падачы заявы. Гэта звычайныя прызначэнцы, якія з'яўляюцца супрацоўнікамі бюджэтных арганізацый або чыноўнікамі дзяржаўных устаноў. Прадстаўнікоў ад дэмакратычных арганізацый няма ніводнага.

Жанчыны складаюць 61 працэнт ад агульнай колькасці, дзяржслужачыя - 30 адсоткаў, грамадзяне ва ўзросце да 30 гадоў - 15 адсоткаў.

Сельскімі выканаўчымі камітэтамі створана 8 сельскіх выбарчых камісій з 56 чалавек. У складзе камісій 35 адсоткаў прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў, 23 адсоткі - працоўных калектываў, 41 працэнт - ад грамадзян шляхам падачы заявы. Моладзь ва ўзросце да 30 гадоў складае 12 працэнтаў, дзяржаўныя служачыя - 3 працэнты, жанчыны - 82 адсоткі.

27 сьнежня 2013 прайшло пасяджэнне Шумілінскай раённай выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў раённага Савета дэпутатаў дваццаць сёмага склікання, на якім выбраны кіруючы склад камісіі: старшыня камісіі - Бабічаў В.П.,(дырэктар райбыткамбіната, кіраўнік суполкі КПБ), намеснік старшыні - Ермалаеў С.П.( супрацоўнік рэдакцыя газеты "Герой працы"), сакратар - Казаравец Л. І. (загадчыца сектара па рабоце са зваротамі грамадзян упраўлення спраў райвыканкама).

Пасля фармавання тэрытарыяльных камісій пачнецца этап фармавання акруговых і участковых камісій, калі дакументы на вылучэнне магчыма падаваць адпаведна да 3 студзеня і да 2 лютага ўключна. Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты будзе праходзіць з 12 студзеня па 10 лютага, пры гэтым падача заяў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп павінна завяршыцца 16 студзеня.

У гэтым годзе прыняты касметычныя папраўкі у Выбарчы кодэкс, якія ніякім чынам не паўплывалі на працэдуру фармавання камісій. У выбарчыя камісіі па-ранейшаму не могуць быць у абавязковым парадку ўключана прадстаўнікі кандыдатаў. Таксама не забяспечаны празрысты падлік галасоў і права назіральнікаў бачыць, за каго пададзены голас выбаршчыка. Пры гэтым цяпер кандыдаты пазбаўлены права друкаваць праграмы за кошт бюджэтных сродкаў, а павіння для гэтага сфармаваць свае грашовыя фонды. Магчыма прагназаваць, што кандыдаты ад улады ў безальтэрнатыўных акругах ніякія праграмы за свае грошы друкаваць не будуць.

**Алесь Шумскі**

## *ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY*

ПРАБЛЕМЫ АДУКАЦЫІ

# У ЦЕСНАЦЕ І КРЫЎДЗЕ

**У Шуміліне адчуваецца дэфіцыт месцаў у дзіцячыя дашкольныя ўстановы. А ў сярэдняй школе № 2 дагэтуль не завершаны рамонт.**

Напрыканцы снежня раён наведаў начальнік упраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама Іван Шчурок. За дапамогай да абласнога чыноўніка звярнуліся дырэктар СШ № 1 Валянціна Мянькова і загадчыца дзіцячага ясляў-сада №4 Зінаіда Зазыба.

У мікраруёне СШ № 2 даўно ўзніклі праблемы з месцамі ў дзіцячы садок. На месцы новых забудоў былі ўзведзены чатыры шматпавярховыя дамы. На будучае тут плануюць будаўніцтва яшчэ аднаго дома. Засяляюць шматпавярхоўкі пераважна маладыя сем'і, у іх нараджаюцца дзеці.

Як правіла, месцаў для дашкольнікаў не хапае, таму ўзнікла неабходнасць прыбудовы да ясляў-сада. А ў СШ № 2 дагэтуль не завершаны ўнутраны рамонт.

Грошай у раённым бюджэце няма. Іван Шчурок паабяцаў магчымую дапамогу пры наяўнасці фінансавання, але толькі ў тым выпадку, калі ўдасца адшукаць дадатковыя сродкі. Аднак старшыня райвыканкама Уладзімір Куранны ўпэўнены, што гэтыя праблемы хутчэй за ўсё давядзецца вырашаць сваімі сіламі, аб чым ён і заявіў на рабочай нарадзе 16 снежня.

**Алесь Прыбярэжны**

СТАТЫСТЫКА

# АДЗІН З ЛІДЭРАЎ ПА БЕСПРАЦОЎЮ

**Шумілінскі раён трапіў ў Топ -10 самых "беспрацоўных" рэгіёнаў Беларусі.**

У Шумілінскім раёне, які замыкае тройку лідэраў гэтага неганаровага рэйтынгу, налічваецца 86 афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных. Пры гэтым узровень беспрацоўя тут вышэй (1%), чым, напрыклад, у Бярозаўскім раёне (0,9 %), хоць там зарэгістраваны 261 беспрацоўны. Такія дадзеныя прыведзеныя ў зборніку статыстыкі па рэгіёнах Беларусі.

Сярод іншых рэгіёнаў першае месца па колькасці беспрацоўных займае Жлобінскі раён. У мясцовых органах па працы і занятасці зарэгістравана больш за 500 чалавек, а ўзровень афіцыйнага беспрацоўя ў 2 разы вышэй за сярэдні па краіне.

Аднак афіцыйныя лічбы занадта сціплыя. Відавочна, што 561 беспрацоўны - гэта кропля ў моры, напрыклад, для Жлобінскага раёна, у якім жыве больш за 100 тысяч чалавек. Сціплыя, але заканамерныя, бо афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў Беларусі рэкордна нізкі. У лістападзе 2013 ён склаў 0,5 % ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва. Рэальнае беспрацоўе ў краіне, па некаторых дадзеных, дасягае 10 % .

**Паводле news.tut.by**

КАРУПЦЫЯ

# НА ВІЦЕБШЧЫНЕ РАСЦЕ КАРУПЦЫЯ

**За 9 месяцаў 2014 на тэрыторыі Віцебскай вобласці выяўлена 348 карупцыйных злачынстваў, што на 14,1 % больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.**

**Правёўшы каардынацыйную нараду па барацьбе са злачыннасцю і карупцыяй, пракуратура Віцебскай вобласці агучыла колькасць крымінальных спраў, узбуджаных па «карупцыйных» артыкулах.**

На нараду сабраліся кіраўнікі абласных і раённых праваахоўных і кантралюючых органаў, органы выканаўчай улады , старшыні камісій гаррайвыканкамаў па супрацьдзеянні карупцыі, члены грамадскага савета пры пракуратуры Віцебскай вобласці па кантролі за дзейнасцю праваахоўных і іншых дзяржаўных органаў і супрацьдзеянні карупцыі. Выступаючы перад прысутнымі, намеснік пракурора Віцебскай вобласці Сідаровіч адзначыў павышэнне актыўнасці ў працы праваахоўных органаў па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі .

Вось толькі прыведзеныя лічбы можна тлумачыць дваяка. У студзені -верасні 2013 зарэгістравана 654 злачынствы, за аналагічны перыяд 2012 года - 561. з аднаго боку, праваахоўнікі актывізаваліся. А з другога - злачынцы пачалі здзяйсняць больш злачынстваў.

Назіраецца рост злачынстваў супраць парадку ажыццяўлення эканамічнай дзейнасці. За 9 месяцаў 2013 выяўлена 235 злачынстваў , за ўвесь 2014 - 207. Сярод іх найбольшую колькасць складаюць факты фальшываманецтва, парушэнні правілаў аб здзелках з каштоўнымі металамі, незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, вымагальніцтва крэдытаў, ухілення ад пагашэння крэдыторскай запазычанасці, выплаты падаткаў.

За 9 месяцаў 2013 на тэрыторыі вобласці выяўлена 348 карупцыйных злачынстваў , што на 14,1 % больш , чым за аналагічны перыяд мінулага года ( 305). Злачынствы выяўляліся ва ўсіх рэгіёнах вобласці.

У структуры карупцыйнай злачыннасці пераважаюць факты хабарніцтва (183 злачынстваў, або 53 %), крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі ( 97 злачынстваў, або 28%).

***"Штодзённік", ej.by***

ПРАБЛЕМЫ АГРАКОМПЛЕКСА

# ХОПІЦЬ "ПРАЯДАЦЬ" КАРОЎ НА ЗАРПЛАТУ!

**На 15 працэнтаў знізілася за год вытворчасць малака ў Шумілінскім раёне. А пагалоўе буйной рагатай жывёлы зменшылася на 1200 галоў. У чым справа?**

У снежні мінулага года адбылася выязная нарада па малочнай жывёлагадоўлі на праблеме надояў ферме «Заўсыскі» Шумілінскага раёна. Тады кіраўніцтва КУСГП «Мішневічы», ды і раёна ў цэлым, абяцала старшыні Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Віцебскага аблвыканкама Сяргею Догелю выправіць становішча. На жаль, не атрымалася, прычым не толькі на гэтай ферме, але і ў жывёлагадоўчай галіны ў цэлым. У райсельгасхарчу змяніліся начальнікі, аднак да пазітыўных пераменаў гэта пакуль не прывяло. Паспрабуем разабрацца, чаму.

Год таму Сяргей Догель справядліва абураўся:

– Каб выплаціць заработную плату ў кастрычніку, аграры Шумілінскага раёна «з'елі» больш 300 кароў. 3 месяца ў месяц так працягвацца не можа: грошы трэба і можна зарабляць на малацэ, падвышаючы яго якасць, а не толькі надоі. Утрыманства быць не павінна! Колькі можна «даіць» канцэрн «Мясамалпрам» замест уласных кароў?

Аднак воз і цяпер там. Кароў «з'ядаюць», а якіх і дояць, то па мінімуму, дзе-нідзе давёўшы прадуктыўнасць да казінай. На думку цяперашняга першага намесніка начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Андрэя Кузняцова, галоўная праблема па - ранейшаму ў недахопе кармоў:

– Раён недаатрымаў у 2013 годзе 12 тысяч тон збожжа, а бо з яго можна было б прыгатаваць камбікорм, якога востра не хапае нашым жывёлам. У многіх гаспадарках выдаецца камбікорм кропкава, гэта значыць атрымлівае яго далёка не кожная карова.

Ёсць МТФ, дзе ён увогуле не ўваходзіць у рацыён: альбо з-за дэфіцыту фінансаў, альбо з-за адсутнасці загадчыка фермы, якому можна было б даверыць раздачу гэтага каштоўнага прадукту, як у Кардеках таго ж КУСГП «Мішневічы», дзе надойваюць толькі 3,3 кілаграма малака ад каровы. У выдомых ужо Заўсыскіх - на паўлітра больш, між тым як у снежні мінулага года атрымлівалі звыш 6 кілаграмаў і маюць намер былі падвоіць вынік. Здавалася б, зробленыя на ферме рамонт, добраўпарадкаванне яе тэрыторыі, паляпшэнне ўмоў для саміх жывёлаводаў спрыяльна адаб'юцца на выніках іх працы. Як бы не так! Размешчаная побач з аграгарадком Мішневічы ферма стала як бяльмо на воку ў гаспадаркі. Для параўнання скажам, што на двух іншых яго фермах надойваюць ад каровы па 9 літраў малака. Удакладнім: ад сытай каровы!

Вядома, МТФ «Заусыскі» не адзіная ў сваім родзе. Няпростая сітуацыя ў жывёлагадоўлі "Райаграсэрвіса" і КУСГП «Ульскі», які маюць намер далучыць да ААТ «Лаўжанскі». У сярэднім па раёне надойваюць крыху больш за 6 кілаграмаў малака ад каровы ў дзень - на 1,26 кілаграма менш, чым у снежні 2012 года. І прычына таго, вядома, не толькі ад недаядання. Раёну не хапае заатэхнікаў, селекцыянераў, ветурачоў, даярак. На гэтыя пасады не рвуцца, ведаючы пра бедную аплату цяжкай працы, за якую часам выдаецца натурпрадукт .

Здавалася б, праблему кадравага дэфіцыту можна вырашыць шляхам мадэрнізацыі жывёлагадоўчых аб'ектаў. Але не атрымліваецца. Па словах Андрэя Кузняцова, пяць даільных залаў павінны былі ўвесці ў эксплуатацыю восенню гэтага года, але з-за недахопу грошай будаўнічыя работы зацягнуліся, а значыць, і тэрміны здачы перанеслі. Апошні - да 1 студзеня 2014 года. Праўда, ніхто не верыць, што гэта рэальна. Новы год на носе, а на будаўнічых пляцоўках, як кажуць, конь не валяўся. Сёння на Шумілішчыне функцыянуюць пяць даільных залаў, на астатніх фермах ўстаноўлены малакаправоды, але ўсё гэта абсталяванне патрабуе клапатлівых чалавечых рук. А жывёлагадоўля ў цэлым - павышэнне тэхналагічнай дысцыпліны, якая, несумненна, ўплывае на надоі ў колькасным і якасным стаўленні. Каля паловы рэалізуемага малака прымаецца малаказаводам гатункам «экстра», і гэта ўжо лічыцца прагрэсам.

Аптымізмам аграрыі Шумілішчыны не вызначаюцца. Яно і зразумела. Безграшоўе і закрэдытаванасць гаспадарак вясёлага настрою не ствараюць. Змянілася кіраўніцтва райсельгасхарчу, якое вымушана разграбаць старыя завалы гадамі назапашаныя праблемы. Нічога, акрамя спагады, гэта не выклікае. Бяда ў тым, што аналагічныя праблемы адолелі райсельгасхарчы большасці рэгіёнаў Віцебшчыны. Яшчэ больш "крута" за шумілінскіх мінусуюць ў вытворчасці малака жывёлаводы Лёзненскага, Браслаўскага, Талачынскага раёнаў. А ў цэлым па вобласці сярэднестатыстычная карова стала даваць на 0,7 літра малака менш, адсюль зніжэнне і вала, і продажу гэтай каштоўнай сыравіны.

Чакаюць буронкі на фермах ці то рашэння застарэлага пытання, ці то пажыўных кармоў, ці то душэўнага клопату.

**Беларуская ніва**

НАШ САЙТ

# ТОР САМЫХ ПАПУЛЯРНЫХ НАВІН ШУМІЛІНА 2013

**Прапануем чытачам успомніць самыя папулярныя матэрыялы сайта shumilina.by за 2013 год.**

Сайт пачаў сваю працу на заканчэнні першай паловы мінулага года 26 чэрвеня. Усяго за 2013 на сайце было размешчана 130 нататак пра падзеі на Шумілішчыне, аб сацыяльна -эканамічным развіцці раёна, найбольш значныя падзеі грамадска-палітычнага жыцця рэспублікі.

Артыкул, найбольш папулярны на сайце ў 2013 годзе - "У Шуміліне працуе прыватнае таксі", сабраў 315 праглядаў і зьяўляецца лідэрам мінулага года.

Найбольш папулярныя публікацыі зараз выглядаюць наступным чынам:

10. Новыя тратуары

Жыхароў Шуміліна радуюць новыя тратуары, якія пракладваюць па вуліцы Суворава. 170 праглядаў. shumilina.by/rus/новости/экономика/11/

9. Вандалы.

На вуліцах райцэнтра невядомыя зламыснікі разбураюць жалезабетонную агароджу 173 прагляды.

shumilina.by/rus/новости/происшествия/65/

8. Як працоўныя мігранты з Беларусі ратуюць эканоміку краіны.

Сума грашовых перакладаў ад беларускіх гастарбайтэраў на радзіму штогод павялічваецца. На думку экспертаў, прычынамі гэтага з'яўляюцца рост колькасці мігрантаў і ўзровень іх кваліфікацыі. 176 праглядаў. shumilina.by/rus/новости/общество/133/

7. "Шуміліна" з разгромным лікам перамог "Плоскае".

У нядзелю 1 верасня на гарадскім стадыёне ў Шуміліне адбыўся футбольны матч паміж ФК "Шуміліна" і ФК "Плоскае" Талачын. Наша каманда перамагла з лікам 7:1. 199 праглядаў. shumilina.by/rus/новости/спорт/71/

6.Меры па спыненні ўтрыманства.

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны ўнесла ва ўрад праект указа, у якім прадугледжаны дадатковыя фільтры для тых асобаў, якія звяртаюцца за дзяржаўнай адрасней сацыяльнай дапамогай. 203 прагляды. shumilina.by/rus/новости/общество/13/

5.Злачынства кожны дзень.

Толькі за адзін тыдзень у раёне узбуджана шэсць крымінальных справаў. 207 праглядаў.

shumilina.by/rus/новости/общество/21/

4. Тэхнічная параза.

Кіраўніцтва Віцебскай абласной федэрацыі футбола адмяніла вынікі матча ФК "Шуміліна – ФК "Дынама" (Лёзна). У выніку сітуацыя ў турнірнай табліцы перавярнулася з ног на галаву. 209 праглядаў. shumilina.by/rus/новости/спорт/84/

3. Малады спецыяліст: Буду працаваць у выканкаме, заробак абяцалі два мільёны.

Пра свае перасцярогі і чаканні распавяла выпускніца Баранавіцкага ўніверсітэта Ганна Саўчук, якую накіравалі на працу ў Шуміліна. 252 прагляды. shumilina.by/rus/новости/общество/40/

2.Івестары пабудуюць турыстычную базу ў Полцеве.

Маштабны турыстычны праект, які ўключае ў сябе гадоўлю коней для шпацыраў і высакародных аленяў для трафейнага палявання, плануе рэалізаваць беларуска-расійскі тандэм інвестараў у Шумілінскім раёне. Аператарам праекта выступае сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю "Егермейсцер". 282 прагляды. shumilina.by/rus/новости/экономика/11/

1.У Шуміліне працуе прыватнае таксі.

Першаадкрывальнікам новай паслугі насельніцтву стаў мясцовы прадпрымальнік Аляксандр Рубін, які заснаваў таварыства "Рубінзон-Сервіс". 315 праглядаў. shumilina.by/rus/новости/экономика/31/

**Аляксандр Шчамлёў**

ЗДАРЭННІ

# РАЗАБРАЛІ ДОМІКІ

**Каля возера Шумілінскае невядомыя зламыснікі пашкодзілі дах у доміках для адпачынку. Адарваныя дошкі, якімі быў накрыты дах, хутчэй за ўсё нехта скарыстаў на гаспадарчыя патрэбы.**

Кіраўніцтва раёна прыклала нямала намаганняў, каб сіламі лясгаса устанавіць рубленыя домікі для адпачынку на беразе Шумілінскага возера. Летам тут можна было схавацца ад спёкі, пасядзець за сталом, пачытаць, згуляць партыю ў шахматы ці пастукаць ў даміно. Але як часта у нас бывае, цягнуць усё, што дрэнна ляжыць. Вядома ж, міліцыянера каля кожнага слупа не паставіш. А свядомасць тутэйшага насельніцтва засталася чакаць лепшых часоў. Таму і крадуць усё, што трапіць пад руку - маўляў, у гаспадарцы спатрэбіцца. Ды і санітарны стан тых домікаў не заўсёды быў на ўзроўні. Мясцовыя выпівохі там часта пакідалі за сабой разбітыя бутэлькі пасля спажывання таннага напою, якое у народзе называюць "чарнілам".

Як не стараліся будаўнікі капітальна прымацоўваць дах, але дошкі літаральна кажучы, узадралі праз сілу.

Цяпер будаўнічая брыгада шумілінскіх камунальнікаў прывезла новыя дошкі і пачала рабіць рамонт. За кошт бюджэта, які папаўняюць падаткаплацельшчыкі. І як заўсёды, за наш з вамі кошт.

**Алесь Прыбярэжны**

# ЗАГАРЭЛІСЯ ХЛЯВЫ

**У горпасёлку Обаль адбыўся пажар трох калектыўных хлявоў.**

Загарэліся калектыўныя хлявы ў Обалі. У блоку калектыўных хлявоў памерам 12x24 м, знішчаны дах на плошчы 54 кв. м, пашкоджаны сцены і маёмасць.

Як мяркуецца, прычынай пажару стаў падпал, справа перададзена ў РАУС.

**Па зводках МНС**
**Сяржук Горкі**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ДАТА

# ВЕЧАР 13 СТУДЗЕНЯ — ШЧАДРЭЦ, БАГАТАЯ КУЦЦЯ

У беларусаў быў цэлы рэгламент па святкаванню багатых Калядаў. Сёняшняя куцця — мясная таму "без парсюка й Каляды не Калядамі. Старыя людзі кажуць, што раней нашы продкі перад Калядамі калолі кормнага падсвінка, каб Каляды не гневаліся, дадалі наўсё добры ўраджай, а на гаваду добры прыплод". Раней у гэты вечар па вёсках сядалі разбіраць свіную галаву — сімвал урадлівасці і дабрабыту.

Лічылася, што ў таго хто не напячы блінцоў у гаспадарцы не будзе сытнай, здаровай жывёлы.

Розных спраў у гэты дзень шмат. Вечарам дзяўчаты па вёсцы пачыналі шчадраванне — выбіралі "шчодру": самую прыгожую дзяўчыну, якую апраналі ў лепшае адзенне, а галаву ўпрыгожвалі вяночкам з рознакаляровых папяровых стужак. І абыходзілі вёску дом за домам, жадаючы гаспадарам добрага Новага году, дабрабыту, шчасця:

*На нова лета*
*Хай родзіцца жыта.*
*Шчодры вечар, багаты вечар!*
*Жыта, пшаніца,*
*Усякая пашніца!*
*Жадаем табе,*
*Слаўны гаспадару,*
*Піва варыці,*
*Сынкоў жаніці,*
*Пасаг збіраці,*
*Дочак выдаваці.*
*Залезь на баляску,*
*Дастань каўбаску,*
*Стань на драбінкі,*
*Дастань саланінку,*
*Кошычак маку*
*Да таго прысмаку.*
*Шчодры вечар, багаты вечар!*

*(Песьня — шчадроўка, запісаная Р. Шырмам у 1928-м годзе ў Пружанах ад Ганны Дудзейкі).*

А нам застаецца помніць, што ў вечар 13 студзеня настала пара выдаліць з хаты ялінку, бо яна акумулявала шкодную энергію з 24 снежня пры павароце сонца да новага жыцця.

ВІНШАВАННЕ

# НЕ БОЙЦЕСЯ ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ

**У навагоднюю ноч прагучалі самыя розныя віншаванні ад палітычных і грамадскіх дзеячаў Беларусі. Прапануем вашай увазе пранікненнае навагодняе відэа-віншаванне ад пісьменніка Уладзіміра Арлова да чытачоў “Нашай Нівы”**

**Дарагія сябры!**

У гэтыя святочныя дні, як і летась, я найперш думаю пра тых, хто сустракае Новы год у няволі. Хачу, каб мяне пачулі **Алесь Бяляцкі, Мікола Статкевіч** і ўсе, хто пакутуе за свае погляды.

Як казала адна добрая беларуская вядзьмарка, што была маёй бабуляй: збаў Божа вас ды і ўсіх нас ад пустога коласа, ад рэдкага воласа, ад харчу нязвычнага, ад голасу зычнага, ад нядобрых вачэй і паганых рачэй. Да хуткай сустрэчы на волі!

У мінулым годзе я шмат вандраваў па Беларусі: быў у Прыдзьвінні і на Нёмане, плыў з сябрамі па Прыпяці і Сожу.

**Душу грэюць успаміны** пра нашы непаўторныя, па-беларуску стрыманыя краявіды з іхняй заўсёднай прыхаванай таямніцаю. Натхняюць згадкі пра сустрэчы з маімі чытачамі і зусім незнаёмымі мудрымі й светлымі людзьмі.

Але памятаецца і іншае.

Не магу забыць пяцікласнікаў з невялікага беларускага гарадка, якія амаль не разумелі беларускае мовы, і такіх самых разгубленых вучняў сталічнае школы.

Прыгадваюцца маладыя супрацоўніцы найцікавейшага палескага музея, для якіх — з іхнімі жабрацкімі заробкамі – праблема не толькі з'ездзіць кудысьці на адпачынак, але нават выбрацца ў Менск на выставу.

Зноў і зноў успамінаюцца дзіўныя мануманенты, сустрэтыя на чыста падмеценых вуліцах нашых гарадоў і мястэчак – то дамам з сабачкамі, то гурку…

Я не маю нічога супраць салёнага гурочка на навагоднім стале і часам магу загледзецца на прыгажуню з балонкай.

Але ж Беларусь — гэта не краіна гуркоў і дамаў з сабачкамі.

Для мяне Беларусь здавён была краінаю мужных і таленавітых людзей. Яны збудавалі дзівосныя храмы, замкі і палацы, што увайшлі ў Сусветны спіс культурнай спадчыны. Яны шэсць стагоддзяў назад адстаялі нашу зямлю ад захопнікаў з захаду пад Грунвальдам і 500 гадоў таму разбілі пад Воршай захопнікаў з усходу. Яны не раз, баронячы сваю нацыянальную годнасць і шматвяковую прыналежнасць да Еўропы, паўставалі супраць Расейскай імперыі.

Але дзе помнікі героям тых падзеяў?

Чаму Навагрудак так і не дачакаўся бронзавага **Міндоўга**, як Віцебск не дачакаўся **Альгерда**? У якім кабінеце пахаваная ідэя стварэння помніка вялікаму князю **Вітаўту**? Чаму ў Менску не з'явіўся помнік нашаму нацыянальнаму герою **Кастусю Каліноўскаму**?

Затое Рагачоў замест чаканага вальналюбца Гервасія Выліваxі, створанага геніем Уладзімера Караткевіча, аздобіўся чатырохметровым мануманентам, што ўвекавечыў тамтэйшую згушчонку.

Між тым сучасная навука сцвярджае, што чым глыбей сувязь са сваёй культурай тым мацней і духоўныя сілы нацыі, і фізічны імунітэт кожнага чалавека.

Забудзем гісторыю – станем бяспамятнымі, не здольнымі адрозніць сябра ад нядобразычліўца. Забудзем мову – станем нямымі.

У 2013-м мы адзначалі 150-годзьдзе нашага вызвольнага паўстання.

Вы памятаеце пароль каліноўцаў?

**Каго любіш?**

**Люблю Беларусь!**

Хачу пажадаць усім нам, каб у новым годзе гэтыя словы збразіліся нашым дэвізам.

Каб мы любілі сваю краіну, захоўваючы ў сваіх сем’ях мову продкаў. Каб адзначалі свае, а не чужыя гістарычныя святы.Каб глядзелі на свет беларускімі вачыма і не баяліся бараніць сваё — і старадаўнюю камяніцу — ад бульдозера, і сумленна зароблены рубель – ад новых пабораў.

Толькі тады мы ўсе разам зробім крок крок насустрач той Беларусі, якая пакуль прыходзіць да нас у толькі ў мроях і снах.

**Не бойцеся! Не бойцеся любіць Беларусь!**

З Новым годам!

**Уладзімір Арлоў**

БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

# МОСКВА ПРЯНИК ДАСТ, ЕСЛИ МИНСК БУДЕТ ЗАЙКОЙ

**Александр Лукашенко снова получает дивиденды за статус верного союзника Москвы. И никакой Янукович тут дорогу не перебежит.**

**27 декабря** на пресс-конференции в Минске посол России **Александр Суриков** назвал глупостью рассуждения, что российские вливания в Украину уменьшат финансовую поддержку Беларуси: *«Одно другому не мешает»*.

Эксперты же задаются вопросом, не слишком ли дорого обойдутся стране встречные уступки. И склоняются к выводу, что кремлевская помощь не решит проблем белорусской экономики, а лишь законсервирует их.

**Интеграционное гусарство Путина**

«Ресурсы у России есть, и это подтверждает последнее заседание Высшего госсовета Союзного государства», — заверил посол России, говоря о готовности поддержать белорусского партнера, у которого финансы поют романсы.

Но из репортажей в московской прессе следует, что прозвучавшее 25 декабря заявление Владимира Путина о выделении Беларуси кредита в сумме до двух миллиардов долларов было как снег на голову российским министрам. Этакий гусарский жест первого лица. Подчиненные же так и не смогли по ходу внятно сформулировать, откуда возьмутся деньги.

Лишь днем позже министр финансов **Антон Силуанов** сообщил: *«Мы договорились сегодня на правительстве о том, что в следующем году будет предоставлен межгосударственный кредит Республике Беларусь за счет уточнения бюджета следующего года в сумме 450 миллионов долларов (…) Оставшаяся часть средств — будем смотреть наши возможности»*.

Короче, очень похоже, что Кремль, вняв мольбам союзника, **экспромтом принял чисто политическое решение** о финансовом спасении, а министры постфактум чешут затылки, откуда наскрести денег.

Иначе говоря, Россия даже вопреки внутренним экономическим трудностям (на которые кивал, между прочим, и Суриков) оплачивает свои великодержавные амбиции. И хотя посол заверил, что Москва в ответ на свою щедрость ничего от Минска не ждет, на той же пресс-конференции прозвучал совет, что «не надо тянуть резину» с МАЗом и другими интеграционными проектами (например с участием МЗКТ, «Гродно Азота»), предусматривающими объ-единение белорусских и российских активов.

Также посол попенял на проблемы допуска российских предприятий к государственному заказу Беларуси, другие препоны, чинимые белорусской стороной. В этом контексте веско прозвучала фраза о том, что Россия в связи с созданием Евразийского союза откажется от взимания экспортной пошлины на нефтепродукты (то, чего так добивается Лукашенко), если «стороны не натворят глупостей».

**Антизападные «краники»**

Российскому послу пришлось комментировать и щекотливую клерикально-светскую тему: на днях Священный синод Русской православной церкви (РПЦ) назначил главой ее Белорусского экзархата никогда не жившего здесь архиерея Павла.

Сам факт, что руководство РПЦ бросило на Беларусь не ее гражданина (родился в Караганде, служил до последнего времени в Рязани), судя по кипению в фейсбуках, **поставил на уши как часть здешних православных, так и просто политизированную публику: мол, никакого уважения к суверенитету, национальной специфике и т.п.**

Господин Суриков был вынужден ограничиться общими рассуждениями типа того, что *«плохих митрополитов в Беларуси не бывает»* и что *«сюда мог быть назначен только высокопорядочный человек, любящий людей»*.

Трудно сказать, насколько переубедят эти сентенции тех, кто посмотрел разошедшийся по социальным сетям, как вирусная реклама, скандальный видеоролик, датированный декабрем 2011 года: тот самый *«человек, любящий людей»*, грозит Западу в отместку за цветные революции оружием массового уничтожения и открытием «чернобыльского краника».

Отметим, что по иронии судьбы митрополит Павел едет из Рязани на повышение в страну, посыпанную чернобыльским пеплом. Да и вокруг строительства Островецкой АЭС по российскому проекту (Суриков подтвердил готовность Москвы вкладываться) здесь ныне бушуют страсти.

Назначение митрополита Павла главой Белорусской православной церкви (БПЦ) — это и проявление имперской политики, и в то же время некий вынужденный компромисс между Москвой и Лукашенко, считает **Валерий Карбалевич, эксперт аналитического центра «Стратегия» (Минск)**.

В комментарии для Naviny.by аналитик напомнил: прошение прежнего главы БПЦ митрополита Филарета лежало без движения три года, а минувшим летом белорусский президент демонстративно не полетел на празднование 1025-летия крещения Руси в Киев. Это могло быть отражением некоего кадрового спора между авторитарным белорусским лидером, стремящемся контролировать все сферы, включая церковную, и Московским патриархатом.

*(працяг на стар. 4)*

ПРАБЛЕМА

# НАРОД ТРЭБА БУДЗІЦЬ ЦІ ЁН ПАВІНЕН ПРАЧНУЦЦА САМ?

**Беларускай апазіцыі рэдка атрымоўваецца хутка і рэзанансна адрэагаваць на тыя ці іншыя падзеі ў грамадстве. Зрэшты, адзначаюць эксперты, яе магчымасці сёння рэзка абмежаваныя жорсткай рэакцыяй уладаў на вулічную актыўнасць, апатыяй насельніцтва, яго страхам перад рэпрэсіямі.**

У гэтым лішні раз пераконвае сюжэт з увядзеннем дзяржаўнай пошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху і ўзнікшая акцыя «Стоп-падатак».

**Лазавік іранізуе наконт пазнавальнай цікавасці**

У прынцыпе, яшчэ да ўвядзення пошліны і непасрэдна пасля галасавання за яе ў парламенце апазіцыйныя палітыкі з абурэннем каментавалі ініцыятыву ўладаў. Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) нават заявіла пра кампанію «Кіраўнік - у адстаўку!", у ходзе якой збіраюцца подпісы праціўнікаў ўвядзення дзяржпошліны на аўтаўладальнікаў. Можна паставіць свае подпісы пад пратэстам і ў інтэрнэце.

Сваю акцыю "Разам супраць абдзіралаўкі", прымеркаваную да разгляду ў Палаце прадстаўнікоў дзяржбюджэту на 2014 год і прыняцця ў першым чытанні законапраекта, які ўводзіць пошліну на аўто, абвясціла і кампанія «Гавары праўду».

Аднак збор подпісаў - відавочна не той крок, які можа паўплываць на меркаванне уладаў, якія ўжо прынялі рашэнне аб увядзенні пошліны.

**«Стоп-падатак» захлынуўся**

Рэальна нервавацца ўлады сталі толькі пасля заклікаў у інтэрнэце пратэставаць супраць ўвядзення пошліны ў цэнтры Мінска.

У выніку першая акцыя пратэсту аўтамабілістаў, якая адбылася вечарам 20 снежня на сталічным праспекце Незалежнасці, атрымала досыць вялікі рэзананс, хоць і не была вельмі ўжо масавай.

Да другой акцыі, анансаванай на 27 снежня, улады падрыхтаваліся больш грунтоўна. На праспекце былі выстаўленыя ўзмоцненыя нарады Дзяржаўтаінспекцыі, на ходніках дзяжурылі сілавікі ў цывільным. Рэдкіх пратэстуючых аўтамабілістаў спынялі супрацоўнікі ДАІ.

А на трэцюю акцыю, абвешчаную 3 студзеня, падобна, выйшлі толькі супрацоўнікі ДАІ.

20 сьнежня трое палітыкаў-аўтамабілістаў - Віктар Карняенка, Сяргей Калякін і Анатоль Лябедзька - падалі заяўку ў Менгарвыканкам на правядзенне 5 студзені аўтапрабегу па праспекце Незалежнасці.

Рашэнне гарвыканкама апынулася прагназуемым - аўтапрабег не дазволілі. Напэўна, гэта разумелі і самі апазіцыйныя палітыкі, таму адразу пасля атрымання адказу ад мінскіх уладаў абвясцілі план Б - збор на плошчы Якубка Коласа подпісаў за адстаўку ўрада і адмену пошліны.

З улікам беларускіх рэалій акцыя, можна сказаць, прайшла паспяхова – сабралі каля сотні подпісаў. Па незалежных ацэнак, за двума прадстаўнікамі апазіцыі назірала каля сотні супрацоўнікаў міліцыі і спецслужбаў. Атрымліваецца, па супрацоўніку на кожную сабраную подпіс.

**Апазіцыя ў зачараваным коле**

На думку палітолага Алеся Лагвінца, улады досыць паспяхова рыхтуюцца да розных формаў пратэсту, на якія рашаюцца грамадзяне. Градус палітычнай мабілізацыі ў грамадстве і так невысокі, таму для мінімізацыі пратэсту цалкам дастаткова папераджальных пагроз і дэманстрацыі сілы ў дачыненні да некалькіх ініцыятараў або ўдзельнікаў акцый.

«Улады імкнуцца выявіць тых, хто ініцыюе пратэстныя дзеянні ў сацыяльных сетках, ужываюць мэтавыя рэпрэсіі, якія рэтрансліруюцца праз СМІ, павялічваючы паказчык страху і адбіваючы жаданне ўдзельнічаць у вулічных акцыях. Улады робяць так, што кошт удзелу ў якім-небудзь пратэстным дзеянні перавышае ў некалькі разоў цану няўдзелу ў ім», - адзначае Лагвінец.

У ідэале, лічыць эксперт, пры арганізацыі акцый пратэсту павінны спалучацца партыйная мабілізацыйная праца і грамадзянскі парыў. Але цяпер не той час, каб рэалізаваць гэту задуму: апазіцыя відавочна слабая, а грамадства не верыць не толькі ўлады, але і самой апазіцыі.

«Лепшы шлях на дадзены момант для дэмакратычных арганізацый - далучыцца да акцыяў спачатку ў індывідуальным парадку, - лічыць Лагвінец. - Можа быць, нават не варта асоба афішаваць сваю прысутнасць на акцыях, займаючыся чарнавы працай па мабілізацыі, а не дэкларацыі…».

Больш за тое, праблема даверу да апазіцыі сёння такая, што часта лепш не падкрэсліваць сувязь тых ці іншых пратэстных дзеянняў непасрэдна з апазіцыйнымі структурамі.

«Калі акцыя - гэта дзеянне самога грамадства, то яна мае магчымасць прыцягнуць да сябе ўвагу большай колькасці людзей, чым партыйная ці апазіцыйная ініцыятыва, - мяркуе Лагвінец. - Каб сур'ёзна выступаць са сваімі ініцыятывамі, разлічваючы на іх рэалізацыю, трэба мець адпаведную базу падтрымкі. Але дастатковай базы падтрымкі сёння няма ні ў адной апазіцыйнай арганізацыі ".

**Сяргей Каралевіч**
**naviny.by**

БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ

*(пачатак на стар. 3)*

**Время есть, но на кого оно работает?**

Но сегодня белорусский президент вынужден уступать Москве на всех фронтах из-за скверной финансово-экономической ситуации, делает вывод Карбалевич: *«Отсюда и согласие на назначение митрополита Павла, и появление российских самолетов в Барановичах — у Лукашенко просто нет возможности выбирать».*

В конце концов, если вынести за скобки момент уязвленных амбиций, то в плане антизападного мышления белорусский президент и новый владыка весьма схожи. Один грозил «чернобыльским краником», другой — потоком мигрантов и наркотиков в случае менее ревностной охраны границ с Евросоюзом. Родственные души.

Что же касается щедрости Москвы, то при всех великодержавных амбициях она довольно расчетлива. И дело не только в том, что кредиты положено отдавать с процентами. Российское руководство научилось дозировать подкормку союзника, понуждая его к уступчивости через подвешивание чувствительных для экономики вопросов. Например о нефтяном балансе.

Как известно, на 2014 год Беларусь запрашивает 23 миллиона тонн нефти. Однако, подчеркнул Суриков, *«у нас растут обязательства перед Китаем, а добыча не увеличивается»*. Ох уж эти китайцы! Короче, *«пока согласились на 21 миллион тонн, но будет рассматриваться и возможность поставки 23 миллионов тонн (…) Переговоры еще идут, время есть».*

Если без дипломатии, это называется: посмотрим на ваше поведение. Время, конечно, есть, но оно работает на одну из сторон. Догадайтесь с трех раз, на какую.

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

САЦЫЯЛЬНАЯ ДЗЯРЖАВА

# «СЮРПРИЗ» ДЛЯ ВОДИТЕЛЕЙ: НОВЫЕ ШТРАФЫ И ОБЯЗАТЕЛЬНАЯ ЗИМНЯЯ РЕЗИНА

**За неправильную парковку теперь будут штрафовать не водителя, а владельца автомобиля.**

Начальник УГАИ МВД Юрий Литвин во время телефонной линии в газете «Транспортный вестник» рассказал о некоторых нововведениях 2014 года, которые ожидают автомобилистов. Среди них — обязательное использование зимней резины и детских удерживающих сидений. Еще одно новшество, по мнению ГАИ, должно избавить города от проблем парковки — собираются ужесточить наказание за стоянку в неположенном месте. По словам начальника УГАИ МВД, ответственность будет введена для собственников автомобилей.

«Существует база данных ГАИ, по которой выясняется, что конкретный автомобиль зарегистрирован на такого-то гражданина, — объяснил Юрий Литвин. — Если автомобиль стоит неправильно, привлекается не тот, кто припарковал, а человек, на которого этот автомобиль зарегистрирован».

Ранее о нововведении высказывался исполняющий обязанности начальника УГАИ МВД Василий Бульбенков: «Штраф за остановку или стоянку автомобиля с нарушением ПДД увеличится с 1 до 3 «базовых». За повторное такое нарушение в течение года сейчас нарушителям приходится платить от 3 до 5 базовых величин, а вскоре, возможно, будет предусмотрен штраф от 5 до 8 базовых величин».

При этом Юрий Литвин отметил, что повторность наказаний (как за парковку, так и за другие нарушения ПДД) — эффективная мера: «Она введена, чтобы предупредить человека еще раз, только уже в виде штрафа в двойном размере».

Он также высказал мнение, что штрафы «от и до» — это не лучшее решение, и стоит оставить конкретный размер суммы за определенное нарушение: «Но наши предложения в Госавтоинспекции для законодателя сводились именно к такому моменту, чтобы исключить так называемую «вилку». Но ответ на наше предложение дают такой: у человека всегда есть какие-то смягчающие обстоятельства, отягчающие и т. д. Поэтому пока мы пользуемся тем, что у нас есть».




Во время беседы затронули и тему госпошлины: не увеличится ли количество людей, которые будут ездить без ТО (как некоторые водители подсчитали, выгоднее несколько раз заплатить штраф, чем транспортный налог)? По мнению Юрия Литвина, глобально обстановка не ухудшится: «Количество людей, которые не проходят техосмотр, не увеличится. Будет примерно так же, как и сейчас. Конечно, кто-то будет ездить без техосмотра, но не большинство».

**www.charter97.org/ru/news/2014/1/8/83355**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.01.2014 у 19.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна добраахвотнікамі.